№ 1. Сакавік 1922 г. Г. 1.

# НАШ ШЛЯХ

Штомесячнік беларускага студэнцтва







ВІЛЬНЯ, ∴ ДРУКАРНЯ ∴ „ДРУК“ ∴ СУБАЧ 2.



*К свабодзе, роунасьці знаньню*

*Мы працяребім сабе сьлед.*

*І дудзе унукау панаваньне,*

*Там дзе сягоньня плача дзед.*

**Янка Купала.**



# ШЛЯХІ БЕЛАРУСКАЙ СТУДЭНСКАЙ МОЛАДЗІ.

Як зямля прыгожаю вясною, сарваўшы з грудзей сваіх аковы ледавыя, хутка і прыгожа пакрываецца зяляньню, краскамі, паветра напаўняецца араматным пахам, над галавою чалавека разьлягаецца звонкае пяяньне жаўранка, у душы будзяцца мары—надзеі, сэрцу ў грудзёх становіцца цесна, а ў жылах нашых жывей і ямчэй бурліць - пераліваецца кроў,—так Беларусь, старонка родная, казаў-бы ўжо Богам і людзьмі забытая краіна, дачакалася ўрэшце цёплай і ажыўчай вясны. Романтызм сваімі магутнымі думкамі: шукаць духовай ежы для творчай душы чалавека на самым дне духу кожнага народу, ў ягоных песьнях, байках, легэндах, у ягонай далёкай, забытай мінуўшчыне, ажыўчым духам павеяў на запусьцелую Беларусь. У значнай меры пад уплывам романтызму пачаў тварыць Мацей Бурачок (Багушэвіч), паявіліся этнографічныя працы Чэчата, Федароўскага, Шэйна, Раманава і інш.

Расейская рэвалюцыя, проч прагнаўшая тыранаў свайго народу і народаў, становячых Расейскую Імпэрыю, у некатарым значэньні таксама была і беларускаю вясною. Дзякуючы гэтай рэвалюцыі Беларусь яшчэ больш ачухалася ад доўгавечнага сну, глыбей зразумела цану і патрэбу волі, а галоўныя яе правадыры-інтэлігэнты ўжо пры помачы даволі шырокіх сялянскіх масаў, нат' зрабілі спробы закладзін Беларускай Дзяржаўнасьці.

Вясна-ж гэта для Беларусі і далей трывае. Па многіх унівэрсытэцкіх гарадох Беларусі і Літвы (Менск, Вільня), Польшчы (Варшава, Люблін), заграніцы (Прага) стварыліся значныя гурткі студэнскай беларускай моладзі, здабываючай там з поўнай сьведамасьцю сьвятло навукі, каб неўзабаве панясьці яго у сваю родную беларускую гушчу.

Такое густое і буйнае разьвіцьцё інтэлектуальнае і арганізацыйнае беларускага студэнства мае дужа важнае значэньне для будучыны Беларусі. Студэнт-беларус, гэта ў хуткім часе будаўнічы сваей беларускай Бацькаўшчыны.

Дык якія-ж шляхі Беларускай Студэнскай Моладзі?

У імі: „беларускі студэнт“ шмат крыецца ідэалу.

З гэтым імем сільна зьвязаны паняцьці: навука, надзея лепшай будучыны, гарачае каханьне праўды, сапраўднай волі наагул, асабліва-ж для свагo паднявольнага народу, шляхотнасьць, ахвярнасьць, вернасьць сваім ідэалам. Дык сьцяг свой, на якім выпісаны гэныя вялікія, вечныя ідэалы, студэнт-беларус павінен трымаць высока, каб усім было відно, і трымаць яго чыстым, каб не зацьмілася яго яснасьць.

Вялізарная большасьць студэнтаў-беларусаў вышла з беларускай вёскі з пад саломаю пакрытай хаты; студэнты-беларусы гэта сыны беларуса-хлебароба. Вот-жа, здабыўшы навуку, яны туды, адкуль вышлі, абавязкова вярнуцца павінны. Ад зямлі беларускай, ад сялянскай хлебаробнай гушчы ім нельга адрывацца ані на хвіліну. Там крыніца сапраўды беларускага духу, адтуль наша поўнае адраджэньне. Нашы розныя, „тоже бѣлоруссы“ і „też białorusini“ затым толькі такімі раздвоенымі сталіся, што, хоць вышлі з беларускай вёскі, або вышаўшы адтуль забыліся аб ёй, не стараліся грунтоўна пазнаць гістарычную мінуўшчыну Беларусі, ані яе культуральных, характэрных асаблівасьцяў і не агледзеліся, як здрадзілі свой

народ, сталіся выроднымі яго сынамі і пачалі служыць чужым багам, толькі час-ад-часу прыпамінаючы, што і яны-ж „тоже бѣлоруссы“ або „też białorusini“. Гэна адарваньне ад беларускай вёскі беларусаў праз чужую школу, чужую культуру так сільны ўплыў зрабіла на іх псыхіку, што яны, хоць часта не паддаліся поўнай духоўнай дэформацыі, асталіся сьвядомымі беларусамі і некаторыя з іх працуюць на ніве беларускага адраджэньня, але ўсёжтакі яны часта не пераняты наскрозь беларускім духам і ў іх астаецца сьлед, хоць, мо і нязначнага, але раздваеньня. Асабліва-ж гэта спасьцерагаецца сярод беларусаў жаноцкага роду.

Адгэтуль ясна, што ў грамадзкім сваім сьветаглядзе студэнт-беларус павінен мець сьціслую лучнасьць з беларусам хлебаробам, павінен культываваць беларускую вёску, а ў светлаглядзе палітычным студэнт-беларус як пошасьці павінен выракацца розных орыентацыяў: у яго адна мусіць быць орыентацыя — беларуская, орыентацыя на беларускі народ, на беларускую нацыю.

У справе навукі на унівэрсытэце звычайна за што толькі не бярэцца кожны студэнт! Ен шмат за што хапаецца, шмат немагчымых і некарысных снуець сабе плянаў, аж пакуль ня трапіць на адпаведны для сябе шлях. Студэнтам-беларусам, як цэламу, таксама ня шкодзіць пашукаць адпаведных сабе шляхоў. Па моему, праводнай ідэяй студэнта-беларуса кожнага факультэту, ёсьць: карысьць беларускай нацыі. Дык-жа не перашкаджала-б, каб самі студэнты-беларусы рупіліся аб тым, каб, прынамсі, больш-менш, было роўна: праўнікаў, мэдыкаў, прыроднікаў, гуманыстаў і інш., бо ўсе гэтыя вольныя профэсіі блізу роўна патрэбны і карысны народу. Дзеля гэтага беларус-студэнт у дадатковых студыях (сэмінары, праца прыватная) павінен прадусім зварочваць увагу на свой Беларускі Край. Такім чынам першая мэта ў беларуса-юрыста: студ'яваць свой край з боку гістарычна-юрыдычнага, беларуса-гуманіста: заняцца досьледам над сваей гісторыяй, мовай, літэратурай, беларуса мэдыка і прыродніка—пачаць студыі каля беларускай флёры і фауны. Такая-ж праца беларусаў-студэнтаў дала-б важны матэрыял для беларускай культуры.

У адносінах студэнтаў іншых народнасьцяў, студэнты-беларусы павінны мець з імі пастаянную лучнасьць і праз лекцыі на тэмы беларусазнаўства знаёміць са сваей справай, гісторыяй, культурай.

Належыцца таксама студэнтам-беларусам у Вільні мець пад сваей духовай апекай беларускую моладзь сярэдніх школ (бел. гімназіі, праваслаўнай і каталіцкай сэмінарыяў.)

Вось, больш-менш, тыя шляхі, якімі ў сучасны мамэнт ходзячы, студэнты-беларусы ўсьцяж будуць прыбліжаць ідэал поўнага адраджэньня Беларускай нацыі.

М. Крывічонак.

Вільня.
10.II.22.

# Родная мова — скарб народу.

Дзіўны і трагічны лёс спаткаў нашу мову. Ад трох вякоў зносіць пагарду, зьдзек і паняверку. Суседзі нашы, браты славяне, кожны прысвоівае яе, сусед усходні кажа „нарэчча“, заходні „гвара“. Кожны з прэтэндэнтаў стараецца давесьці большыя правы на нашу мову. Брат усходні з заходнім сварацца

за нашу зямлю і мову, супольна хочуць здэгэнаравāць і асьмяяць наш найдаражэйшы скарб. А мы... Мы можа яшчэ горш топчам і зьдзекуемся над ёй; адшчыпенцы народу ня хочуць прызнацца да „хамскай“ мовы, ім лепш панская, пекная; народ трымаецца блізу пассыўна, ён несьвядома сьцеражэ і гаворыць роднай мовай свaей, хоць і называе яе простай—гэта пагляд несьвядомага народу — інтэлігэнцыя мусіць інакш судзіць.

Ад вякоў пагарджаную, мы мусім любіць сваю мову, бо гэта выплывае з самой натуры. Мы любім бацькоў, дык чаму-ж не павінны любіць роднай мовы, мы выссалі яе з грудзёў маткі, мы пачулі першае слова бацькі; наша мова ня горшая ад іншых, яна лучыць нас з традыцыяй даўнейшай магутнасьці і сілы нашага слова і калі іншыя народы любяць і цэняць сваю мову, то тым больш мы павінны любіць, бо дзякуючы ей мы можам заглянуць у душу нашага пакутнага народу.

Нашы продкі любілі і цанілі сваю мову, яна была ключом у грамадзкім і палітычным жыцьці, аднак ад трох вякоў загнаная ў вёску, яна жыла у вуснах народу, зраслася з нашым целам і душой—гэта мова мільёнаў абяздоленых Беларусаў і слушна гавора Янка Купала:

„Ты зжылося з намі бацькаўскае слоўца
Як-бы корань з дрэвам, як-бы з небам сонца;
Дзеліш з намі вечна ўсё, што з намі ходзе
У благой і добрай мачысе — прыгодзе“.

Мова—гэта аружжа нашага розуму, нашага пачуцьця, аружжа проці зьдзеку і паняверкі, адухатварэньне ідэі нашай дарагой Бацькаўшчыны.

Пекнасьцю і мэлёдыйнасьцю мовы нашай дзівіліся і дзівяцца чужаземцы і слушна калісь казаў Эразм Віттэлі папежу Александру VI—„Linguam propriam Lituani obserwunt. Verum, guia Rutheni medium fere ducatum incolunt, illorum loguela, dum gracilis et facilior sit, utuntur communius*).

Паглядзімо пекныя рымы нашых паэтаў і праканаемся, што словы дыхаюць пекнатой і рожнакалернасьцяй; мовай народу мы можам азначаць усе навучныя названьні; здольна яна і да жартаў і да пекных паважных твораў, сьвежая і пекная, як у Статуце Літоўскім і граматах князёў, так і ў вуснах народу, гармонія да мінаровых тонаў прост задзіўляючая. Ей можам думаць, лятуцець, ёй толькі можам жыць.

Паэты нашы у сваей роднай мове апелі пекнату натуры, сілу каханьня і мукі народу. Мы мусім любіць яе за тое, што гэта голас нашай душы, яна дае нам энэргію ў змаганьні з безпрасьветным жыцьцём народу, яна ёсьць выразам нашага патрыатычнага пачуцьця, яна ёсьць і стравай нашага інтэлектуальнага жыцьця.

Аднак, як ня сумна, а мусім прызнацца што мы ня любім сваей роднай мовы, бо ці-ж можа яе шчыра любіць той, хто карыстаецца чужацкай мовай? А ў нас гэта нярэдка. Сапраўды яе любіць той, хто ўсюды, дзе яго зразумеюць, гаворыць сваей мовай, хто хоча пазнаць яе, дапамагчы ў ейным развіцьці і вучыцца ў ей.

Мы называем сябе Беларусамі, аднак многія з нас ня маюць паняцьця, ня толькі аб літэратуры, але нат самага элемэнтарнага паняцьця аб граматыцы. А ў якой-жа мове мы можам выліць свае думкі, увесь свой душэўны настрой, калі ня ў роднай! Пачынаючы гаварыць у чужацкай мове мы выліваем мёртвыя літары, мы дапасовываемся

---

*) «Ліцьвіны гавораць сваею уласнаю мовою; але, дзеля таго, што Беларусы жывуць амаль ня у сярэдзіне іх княжства, яны (ліцьвіны) часьцей ужываюць іхняй (беларускай) мовы, бо яна прыгожая і лягчэйшая».

да абставін, але не да настрою душы; тады мова наша будзе штучная, але не натуральная.

Той, хто любіць мову—любіць народ—любіць край і ёсьць шчырым патрыётам, сынам сваей Бацькаўшчыны. Але што значыць любіць мову? Перадусім, мы мусім старацца пазнаць яе, вучыцца і разьвіваць яе; мы мусім уводзіць новыя словы, адпавядаючыя духу мовы, але ніколі не павінны даходзіць да крайнасьці, якая ёсьць у адраджаючыхся народаў, каторыя стараюцца заміняць прынятыя ў агульна-грамадзкім жыцьці выразы на свойскія і ня толькі не ачышчаюць мовы, але горш заблутываюць яе.

Аднак найгоршым злом, з каторарага ня выключаны і сьвядомыя Беларусы — гэта ужываньне полёнізмаў, русыцызмаў і барбарызмаў, каторыя так распаўсюджаны, што аб гэтым газарыць ня прыходзіцца. У польскім грамадзянстве, ў часе чужацкай няволі, быў адзін кліч: „przestrzegaj czystości języka“ (сьцеражы чыстасьць мовы.) Бо палякі добра разумелі, што калі захаваюць мову чыстай, то гэтым вызваляць народ з няволі, бо мова і народ—паняцьці неразлучныя. Пара і нам гэта зразумець. Годзі макаранізмаў, будзем ачышчаць нашу мову ад папсутых выразаў і ня будзем тварыць новых, нязгодных з духам мовы.

Шлях адраджэньня народу цяжкі і цярністы і толькі праз любоў да мовы дойдзем да лепшага жыцьця. Так мы мусім любіць, шанаваць і разьвіваць нашу мову, бо яна найпякнейшая для нас, бо яна найчысьцейшая з усіх славянскіх моваў, а калі нам закідаюць, што яна простая, дык адказваймо: „дзякуй Богу, што яна простая, простай дарогай мы хутчэй дойдзем да мэты.“ Кончым славамі паэты нашага Алеся Гаруна:

Дык шануй, Беларус, сваю мову
Гэта скарб наш на вечныя годы,
За пашану радзімага слова
Ушануюць нас брацьця-народы.

**Франук Маркотны.**

---

# У веры моц.

Вера ў жыцьці чалавека мае дужа вялікае значэньне. Вера падтрымліваець нас у нашы цяжкія гадзіны жыцьця, вера надаець сілы для барацьбы за свае ідэалы й парываньні. Вера падтрымлівае нас і тады, калі, здаецца, ужо ўсё кончана, калі, здаецца, прыйшоў канец нашым жаданьням і плянам, калі цёмныя варажыя сілы бяруць перавагу над сьветлым, калі нашы ворагі апыняюць нас з усіх бакоў і перашкаджаюць, як толькі могуць, дабіцца да вызначанай намі мэты.

Тады вера—наш першы прыяцель; яна нам памагае выйсьці з труднага стану і даводзіць нас да нашай мэты.

Наш найвялікшы вучыцель Ісус Хрыстос сказаў: „Хто мае веры хоць гарчычнае зерне, той будзе гарамі парушаць.“ Гэта вялікая праўда, сказана, можа, й алегорычна, мае слушнасьць у найшырэйшым значэньні гэтага паняцьця.

Пабачым, ці гэта так ёсьць у жыцьці. У старадаўным Рыме, калі падчас вайны, згодна з прадказаньнем прарокаў, што тады Рым пераможа ворага, калі адзін з консуляў аддасьць сябе на ахвяру багом, консуль Дэцы кінуўся ў гушчу ворагаў, дзе і згінуў, тады Рым

запраўды перамог. На першы пагляд здаецца гэта надта дзіўным, і цёмны народ найшоў-бы разгадку ў тым, што багі памаглі Рымлянам. Аднак-жа тут уся справа ў веры. Калі рымскія легіёны былі пераконаны, што яны зрабіўшы так, як сказалі прарокі, перамогуць, так йшлі „на адно,“ бачачы перад сабою перамогу, йшлі з падданьнем духу, а дзе падданьне духу, там і перамога.

У гісторыі сярэднявечча маем надта выразны прыклад!—Хачу ўспомніць аб сталетняй француска-ангельскай вайне. Тады, калі ангельцы забралі большую частку Францыі, калі край быў спустошаны ворагамі — тады знайходзіцца дзіўная збаўніца Жанна Д' Арк.

Скуль сіла, скуль моц у гэтай дзяўчыны збавіць край ад чужынцаў! Не належыць шукаць сілы надпрыроднай—сіла тая знайшлася ў тых самых, што й раней баранілі сваю бацькаўшчыну. Толькі цяпер ваякі верылі, што збаўленьне ўжо настала, што Жанна Д'Арк ёсьць сымболь канца панаваньня чужынцаў, яны верылі ў перамогу, й з гэтаю вераю йшлі адважна на ворага й перамаглі.

Калі мы глянем на здарэньні бліжэйшыя да нас, здарэньні гісторыі новай, то пабачым, што там, дзе была вера, заўсёды людзі дабіваліся свае мэты. Калі мы ўспомнім гісторыю паўставаньня незалежных гаспадарстваў, як Голяндыі з-пад ярма Гішпанцаў, або Грэцыі з-пад ярма Туркаў, так адразу ўгледзім, што ў гэтага вызваляўшагася народу была цьвёрдая вера, вера ў канечнасьць свае мэты.—Колькі ні душылі іх сільнейшыя,колькі ні прасьледавалі іх нацыянальных дзеячоў, колькі ні „ўсьміралі“ паўстаньняў за незалежнасьць,—усё-ж народ не пераставаў верыць, што раней, ці пазьней да свае мэты яны дойдуць, што раней ці пазьней сіла ворага будзе зломана, што праўда пераможа. што незалежнасьць настане. Гэта вера давала ім духовыя сілы да змаганьня за народную справу і, ня гледзячы на перашкоды ворагаў, дабіліся яны свае мэты—незалежнасьці Бацькаўшчыны.

Калі мы глянем на здарэньні, каторыя рабіліся і робяцца ў часе нашага жыцьця, здарэньні палітычныя, то заўважым, што ў той мамэнт, калі адна старана была блізка гібелі, вораг браў яе за горла, тады калі была вера і энэргія ў гэтай стараны, яна якімсьць дзіўным спосабам перемагла сваю праціўніцу.

Дый у нашым асабістым жыцьці, калі мы маем веру і пэўнасьць ў выкананьне свае мэты, тады ніякія перашкоды не затрымаюць нас, у нас удваіваецца энэргія, ідзём наперад і дабіваемся свайго.

Беларусы! дык будзем і мы моцна і неадступна верыць у дакананьне свае галоўнай мэты—незалежнасьці нашай бацькаўшчыны Беларусі.

Толькі тады мы ні перад чым не адступім, ніякія перашкоды не затрыюць нашай адраджаючай працы, ніякія пагрозы не напалохаюць нас. Тады, бачачы вырываньне праз варожых нам паноў з грудзей беларускага народу асьведамляючай яго інтэлігэнцыі, мы не апусьцім рук. Калі мы будзем верыць у сьвятасьць нашай ідэі, тады на месцы кожнага вырваннага беларускага дзеяча стане некалькі маладых дзеячоў, й ніхто ня прымусіць нас зыйсьці з нашага шляху, вядучага да адраджэньня нашых братоў. Толькі тады праца наша будзе карысна і прынясе вялікі плод.

Гэту веру мы ўкаранім сярод свайго яшчэ ня зусім сьвядомага народу, і тады йдучы з аднальковымі жаданьнямі рука аб руку даб'емся незалежнасьці Маці-Беларусі.

Дык пойдзем-жа з гэтаю вераю ўперад!

12 лютага 1922 г.

**М. М.**

# СОН.

Дзе я? Што гэта я бачу?

Сонца, высокае, ласкавае горача грэе, навет паліць сьветлымі косамі. Каб ня было ласкавага, далікатнага ветрыка, лёгка абвяваючага ўсё, і зусім горача было-б. Горача зусім, як улетку. Але-ж сьнег ляжыць яшчэ.

І на вачах гіне ён, таець, расплываецца... І шмат вясёленькіх, іскрыстых ручаёчкаў разьбягаецца, цячэць ува ўсе староны.

Яны бягуць, абганяюць адзін аднаго, брызгаюць, коцяцца з горкі, з каменьня, праміж іх і прападаюць дзесьці там унізе, ня бачыць дзе...

Увесь прастор, як бачыць, усе пра-таліны народам поўны. Не разгледзіць якім. Але-ж гоман стаіць наўкола. Сьмех, гутаркі напаўняюць паветра. У вушох зьвініць.

Але-ж што гэта?

Маленькаю, дробненькаю, але ж вернаю ступою йдзець хтось.

Хто?

Йдзець шэранькі, гэткі карэленькі чалавечак.

У лапціках, у белай сьвітцы, шапку пад рукой трымаець.

Хто гэта? Хто?..

І чуецца штось нясьмелае, потым мацнейшае і навет зусім голаснае:

— Дарогу дайце! Дарогу!..

Дарогу? Каму?

Пытаюць насьмешліва.

Дарогу дайце! Барджэй! Усе вон!

Дарогу! Беларусь ідзець!..

Дарогу! даносіцца да мяне, і я ўглядваюся ўпярод.

Бачу гэтага шэранькага чалавечка.

І праўда. Да гэта-ж наш—беларус!

Вось ён ідзець...

Працісківаюся, дрыжу... бачу...

Ідзець чалавек і моцна, высака падымаець штось. Падымаець вышэй і вышэй.

І бела-чырвона-белая харугва прасьцягаваецца, веець.

Што гэта?

Што гэта? Харугва? Якая харугва?

Адкуль? пашто?

— Беларуская.

Адказываець хтось сьмела і голасна.

Што? Якая? Беларуская харугва?

Ха-ха-ха—беларуская?

Але! Беларуская, нашая, народная!

Вось яна! Глядзеце!

І гляджу я, і ня веру, і ціскаюся.

Чалавечак, трымаючы харугву, ідзець, усё далей і далей.

Аж к таму касагору, што бачым у доле, што абтаяў зусім. І зеляннеець, і сьвеціцца...

Ветрык абвявае чалавечка.

Яго фігура гэткая забітая, а йдзе цьвёрда, проста, сьмела.

Ветрык гуляе яго белымі валасамі, ўздымаець полы.

А чалавечак ідзець... усё йдзець...

— Да куды ідзець ён? гаманяць...

Куды?

Што рабіць хоча?

Беларусь—Бацькаўшчыну!..

Беларусь? Якую Беларусь? адкуль яна?

Ці-ж у гэтага хама ёсьць бацькаўшчына?

І што зробіць ён?

— Чакайце! Ціха кажа хтось. Ціха!..

Да як-жа ж ён гаворыць? А? Гаворыць як?

Пабеларуску!

Пабеларуску? Ха-ха-ха!!! Пахамску гаворыць.

Ну і пара. Хам гаворыць. Ціха! дайце слова хаму!

Але! Хам гаворыць—пахамску гаворыць, памужыцку.

Паны... гаварэце вы ўжо папанску!

Адкуль вы? Га!

Папросту ён гаворыць? Дык мы ўсе простыя і ён просты, і гаворыць папросту.

Хам папросту гаворыць—пахамску.

Пахамску, папросту кажа ён вам праўду.

Праўду такую-ж простую, як ён сам, як мова яго.

Стварыць Бацькаўшчыну сваю.

Стварыць простую, праўдзівую.. Стварыць...

Глядзеце і бойцеся...

Дык ведаеце, вы ўсе, што каб ня было гэтай хамскай мовы, ня было-б вашай.

Панскай...

Ня было-б зусім. Далі-бо, ня было-б!..

Хам гаворыць...

Але! гаворыць ён, бо цярпець ня можа больш, бо сьлёз крывавых не стаець, бо няма месца ўжо для пабояў.

Бо забралі вы ўсё ад яго... Паны!..

І цяпер гаворыць хам...

Слухайце ўсе, што ён кажа... Слухайце і бойцеся...

Ен цяпер кажа вам, усяму сьвету кажа праўду.

Няхай слухаюць усе.

Слухайце і бойцеся...

Бацькаўшчыну сваю створыць ён, сваймі рукамі.

Глядзеце, ён робіць ужо..

Глядзеце і бойцеся!!!

Чалавек ціха ўзьбіраўся на горку і сьветлыя касулькі аблілі яго ўсяго.

І быў ён такі белы... бліскучы...

І памалу, ціха пачаў ён уціскаваць харугву сваю.

Ветрык, калыхаючы, разьвязаў яе...

Бела-чырвона-белай харугва была.

Уціснуў харугву чалавек і стаў гэтак моцна, горда.

Потым шапку кінуў, нахінацца стаў.

Стаў на калены на мяккай, цёплай, ліпкай зямлі.

Пакланіўся гэтак нізка. Крыж зрабіў.

І ціха, любоўна пацалаваў зямлю...

Харугва разьвівалася.

І бела-чарвона-белая яна была.

І сьціхлі ўсе.

І словы далёкага, дарагога сьпеву напоўнілі ўсё.

І крыкнулі ўсе, і рвануліся.

— Дарогу!

І на калены сталі...

. . . . . . . . . . . . . . .

Гэта быў толькі сон.

Такі дзіўны, радасны сон.

Як маркотна, нудна была праўда.

Цяжка.

Але-ж хтось моцны і ціхі ў глыбі душы прашаптаў: „будзе.“

І спалахнуўся я ўвесь, і рвануўся ў гару к чамусь сьветламу ў вачох і крыкнуў:

— Будзе!

Зробім!!!...

**Сяргей Шаларэм.**

Вільня.

---

# ГЭТАК БЫЛО...

Гэта было тады, калі ён страціў веру ў жыцьцё...

Гэта было тады, калі ён ня ведаў, што рабіць, што пачаць,—куды ісьці...

Гэта было тады, калі ён, адарваўшыся ад жыцьця, плыў, як слабая, бязвольная шчэпка па шырокім і бурлівым жыцьця прасторы, без надзеі і веры...

І жыцьцё яго пакрылася сівым туманам...

У гэтым страшным беспрасьветным тумане, адзінока брадзіла яго душа, дамагаючыся жыцьця, шукаючы ў ім сэнсу, у гэтай удушлівай цемры часамі маланкай загаралася думка, і, асьвяціўшы на хвілінку цемень, гасла, гінучы ў вечнасьці...

Ен быў малады...

Гарачая, маладая кроў, білася ў яго жылах, клічучы яго да працы,—а сэрца сумавала аб нечым згубленым і беспаваротным...

Часамі яму хацелася кінуцца ў вір жыцьця, каб забыцца і ўцячы ад самога сябе, часамі думкі клікалі яго да творчай дзеяльнасьці, да навукі, да зразумленьня і лепшага уцямку жыцьця...

Але ўсё гэта было ня тое... ня тое.

Ен адчуваў, ён разумеў, што страціў нешта у жыцьці, — ці чагосьці не знашоў, што магло-б акрыліць яго думкі, што паслужыла-б тым пунктам у жыцьці, ад якога красуець душа, што напаўняе чалавека радасьцю быцьця...

І ён усе шукаў,... шукаў...

Ен бачыў паасобных прадстаўнікоў моладзі, якія ўсім сваім гарачым, рвучымся сэрцам аддаваліся дзеяльнасьці, скіраванай або дзеля дабра блізкіх, або дзеля удасканаленьня свайго знаньня, свайго духовага і фізычнага „я“, — ён бачыў як яны адважна, горда і з верай ішлі па цярністым шляху быцьця,—і ён зайздраваў ім...

Ен зайздраваў ім дзеля таго, што яны знаходзілі сэнс у жыцьці, ён зайздраваў ім дзеля таго, што яны аддавалі свае лепшыя годы таму, у што верылі, што дазала багатую страву для розуму і сэрца, ён зайздраваў ім, што яны знайшлі духовую радасьць...

І ён пачаў шукаць гэтай духовай радасьці...

Ен пачаў шукаць яе ў навуцы, рэлігіі, мастацтве...

Ен пачаў шукаць яе ўсюды, дзе даходзіла людзкая думка, што было даступна людзкому паняцьцю..

Але-ж яе ня было...

Сумны, адарваны ад сваей Бацькаўшчыны і не зразумелы ў чужой, — адзін ён бадзяўся па калюгах жыцьця, шукаючы і не знаходячы ў ім сэнсу...

І ён страціў веру...

Ен страціў ўсё, што прывязывае чалавека да жыцьця...

Ен страціў усё, што робіць прыгожым жыцьцё, што паказывае мэту ў ім...

І агарнула яго роспач...

. . . . . . . . . .

II.

Плылі пахмурныя і манатонныя дні, падобныя да месяцаў,—праходзілі доўгія месяцы,—падобныя да гадоў...

Так праходзіў час...

Аднаго разу,—гэта было тады, калі яму надаела жыцьцё, калі ён хацеў уцячы ад яго,—ён бачыў дзіўны, незразумелы сон.

Гэта быў сон падобны да явы, — і гэта ява была падобна да сну...

Гэта быў стан чалавека, калі ён прачыхаецца ад запраўднага сну, зусім застаючыся пад яго ўражаньнем, калі думка яшчэ бродзіць сярод хаосу абразоў, калі фантастычнае сплятаецца з сапраўдным, і ява яшчэ не запанавала ў яго сьвядомасьці...

. . . . . . . . . .

Яму здавалася, што гдзесь далёка—далёка, куды толькі дасягае думка, што толькі можа зразумець сэрца,—з хаосу воблікаў і зьяваў, у яго сьвядомасьці складалася нейкае дзіўнае і незразумелае прадстаўленьне аб нейкім вобліку, які, ціха плывучы з краіны пачуцьця у краіну думкі, прымаў ўсе больш і больш праўдзівы, жывы характар.

У яго сьвядомасьці маланкай пачалі прабягаць думкі аб тым, што гэты воблік яму знаёмы, што ён нейдзе яго бачыў, спатыкаў,—і зьдзіўлены і зацікаўлены гэтым ён падумаў:

— Хто гэта?... Дзе я яго бачыў?...

У тут гэна зьява, падходзячы бліжэй, прыймаючы ўсе больш і больш праўдзівыя рысы, — зблізілася да яго, і, быццам бяз слоў, аднэй толькі мімікай свайго твару,—пачала казаць сумным голасам:—

— „Ты ведаеш мяне, ты мусіш мяне ведаць... але злыя часы зрабілі з цябе тое,—што ты ўстыдаешся, саромішся мяне...

— „Гэны стыд прымусіў цябе адрачыся таго, хто ўзгадаваў цябе...

Ен слухаў...

У апошніх словах зьявы яму здалося нешта роднае і знаёмае ў голасе, але ўспомніць дзе і калі ён бачыў яе,—ня мог...

Тады ў яго памяці пачалі праплываць нязьвязныя абразы, якія ён дзесь і калісь бачыў, якія мелі нешта агульнае, з выплыўшаю ў яго сьвядомасьці зьяваю...

Яму здавалася, што ён бачыў яе ў далекай вёсцы, за сахою, ці ў лесе пры цяжкой працы на чорны кусок хлеба... Пасьля ў месьце, нясьмела хаваўшуюся каля сьцен вялікіх і прыгожых дамоў, або зноў ўстыдаўшаюся свайго „мужыцкага“ роду, у страху кланяўшаюся перад кожным чалавекам у вопратцы з фабрычнага сукна...

Ен пачаў успамінаць, што спаткаў гэну зьяву сумную, стаяўшую бяз шапкі перад чалавекам, каторы меў уладу над ёю, гаварыўшую сапсутай, не сваей роднай, моваю, бо сваё роднае яна баялася ўспамянуць...

У яго сьвядомасьці пачалі зьяўляцца малюнкі, якія ён яшчэ ў дзяцінстве бачыў, калі хвалі жыцьця яшчэ не адарвалі яго ад роднай вёскі,—малюнкі гаротніцкія, сумныя, знаёмыя і блізкія...

І ўва ўсім гэтым чулася штосьці роднае, дарагое, забытае і ўспомненае, прышоўшай з цёмры, зьяваю...

Думка далёкай мінуўшчыны, прыемнаю хваляю захапіла яго душу, пачулася яму чымсьці прыгожым, вясёлым, і яму захацелася ўслухацца... Услухацца і прыпомніць усё, усё што было, — думкаю сваею хацелася вярнуцца да мінуўшага часу...

..А зьява, каторая ўсё расла і расла, пачала далей іграць на струнах яго душы пекную сымфонію, сымфонію новую, пачынаючагося сьвядомага жыцьця...

—„Ты пакінуў мяне, ты пакінуў і пайшоў, як і пайшлі іншыя, да другога жыцьця, працаваць для новай думкі.

—„А я асталася... Асталася сама, бяз нікога, бяз веры і надзеі...

—„І многа лет я мела над сабою цяжкае ярмо бытаваньня, многа лет вяла барацьбу за кусок чорнага хлеба, многа лет цярпела ад тых, што ўладалі мною...

„І гэтак была я адна...

—„І ты пытаеш: хто я, дзе ты мяне бачыў, ты жадаеш прыпомніць, але ня можаш...

—„Я табе памагу ў гэтым...

—„Я тое, што выкарміла цябе...

„Я тое, што дало табе магчымасьць убачыць першае вясельле і радасьць у жыцьці...

—„Я тое, што прыйшло да цябе ў хвіліны гора і роспачы, і тое, што кажа табе: «вярніся да мяне, бо ты мой і я твая...»

— Я Беларусь...“

. . . . . . . . . . . .

І ён прачхнуўся...

Нешта новае ўступілася ў яго сэрца,—дзіўнае вясельле напоўніла яго душу і думкі новыя, думкі прыгожыя пачалі расьці ў яго галаве...

Ен зразумеў мэту свайго быцьця...

Ен знайшоў тое, што так доўга шукаў: — сэнс у жыцьці.

Гэтым сэнсам была Бацькаўшчына...

І ён вярнуўся да яе... І знайшоў духовую радасьць...

Так было...

Л. Леўскі.



# ПЕСЬНІ.

Граюць гусьлі - самагуды,
Песьня - скарга з струнаў рвецца,
То—бы родзіць сны-прычуды,
То—адразу абарвецца...

То—нясецца стогнам смутным
Над паснулымі лясамі,
Ды зьнікаець гдзесь нячутна
Над вазёраў паясамі...

Граюць гусьлі-самагуды,
Вырываюць з сэрца згукі,
Пераборы, перагуды
Старых думак, старой мукі,

Песьняй смутнай, ледзьве чутнай
Шле душа ім адгалоскі
І сплываюць хваляй смутнай
Тыя песьні з вёскі ў вёскі.

Як бяз сонца не пражыці,
Без начы ня знаць спакою, —
Так бяз песьняў цяжка жыці
Раньняй й позьняю парою...

У песьні можна выліць смутак,
З песьняй можна плакаць, рвацца,
Разам з стайкай буслаў, вутак
У край чужы ляцець, сьмяяцца...

Кажуць казкі: прад вякамі
Не радзілісь вольна песьні,
Думкі вострымі цьвякамі
Рвалі сэрцайка балесьне.

Чалавек, пявуньні птушкі
Не пялялі—заліваліcь.
Змоўклі песьні - весялушкі.
Словы ў сэрцах пахаваліcь...

Пахаваліcь... ды ня спалі:
Усё расьлі яны і ўрэшце
Прарваліся, забуялі,
Зазьвінелі: „сэрца цешце!

Вылівайце моц каханьня,
Каб усе вас зразумелі,
Вылівайце ў гэтым граньні
Усё, што моўчанькі цярпелі...“

Й песьні-скаргі, песьні-думы,
Песьні жарты-весялушкі
Панясьлiсь, радзіўшы шумы,
Заліваючысь, як птушкі...

---

Граюць гусьлі самагуды,
Песьня гучна з струнаў рвецца...
То—бы родзіць сны прычуды,
То—адразу абарвецца...

**Н. А.**



# Трэба хацець!.

(Насьледаваньне.)

Хочаш, браток, казкі? Скуль яе ўзяць гэтай парою? Сон сваей таёмнай глыбіні не раскрые, на крыльлях ветру сама не прыляціць.

А ўсё-ж яна тут... недзе блукаецца па зямлі... павуцiннымi нiтачкамi снуе па палёх, серабрыстымі расінкамі на траўкі кладавiцца...

Усемагучая гэта пані і няма ёй перашкод... І паміж магутных ваякоў увойдзе, і на каралеўскі двор усунецца, і ў варотах гаротнага мужыка стане... І ўсюды спакой нясе і забыцьцё... сплаканым вачом сон дае... сумныя сэрцы калыхае... ясныя навявае мары. Мары, што чар нясуць і засьвечваюць над галавой сем зорак шчасьця... І чалавек духам лёгкім стане! і плыве над шэрай зямлёй высока, плыве на хвалях лятуценьняў ясных, там пад сямі зорамі... і магутны каханьнем і сільны вераю ў залатыя зоркі шчасьця..

А хаця некалі сьвет зорак сьцямнее, хаця на вочы навернецца сьляза... хаця на вуснах сканае сьмех вясёлы і станеш, як лазінка дрыжаць,—месяцу яснаму ў ночку халодную жаліцца!.. І тады ня вер, што сон збураны жыцьцёвым сіверам не вяртаецца, што казка кветчаная, казка гарачая як паўднёвае сонца, ня ўстане ўжо перад табой... ня вер! хаці толькі жыць!—Хацець—гэта сьвет стварыць; Хацець гэта зламаць наймацнейшы боль! Сто раз памерці і сто раз ажыць можна, шчасьлівым быць і з зор містычных карону мець! трэба толькі хацець! Трэба хацець!—

*Зоська Верас.*

# Бяз пары...

Пры самым шляху, вядучым у Менск, расселася веска П..... Невялічкая яна сабою. Жыхары яе захавалі чыста нацыянальны воблік беларусаў, не паддаючыся асыміляцыі тэй, ці іншай культуры. І гэта ў іх сталася зусім сьвядома, бо частка моладзі вёскі, атрымаўшы такую-сякую асьвету, ня выракаецца сваей мовы і верыць у адраджэньне беларускага народу. І з усякага іншага боку гэта вёсачка можа служыць абразком запраўды беларускай вёскі, тэй вёскі, скуль, нараджаючаяся беларуская інтэлігэнцыя, чэрпае моц, скуль бярэ духоўную страву для сваей працы. Тут вы пачуеце сумную песьню аратага-хлебароба, данясецца да вас сьлёзная, разьдзіраючая душу, хаўтурная песьня беларускай жанчыны. А заглянь це сюды ў сьвяточны вечар, або на вясельле: усе навакол сабраўшыся, сярод вуліцы уважна слухаюць чытаньне прыгожых беларускіх апавяданьняў, вершаў Мацея Бурачка і інш., пасьля пачынаюцца удалыя песьні дзяўчат, далей музыка, гульні, скокі. І колькі ува ўсім гэтым здаровага гумару, колькі шчырай вясёласьці! Пяро ня можа апісаць усяго гэтага, вусны ня могуць выказаць усіх думак... Нямы сьведка, чорны бор неўдалёчку ад вёскі, адзін улавіў і запісаў у сваёй вялікай, векавой кнізе ўсе праявы духоўных перажываньняў нашай вёскі. Нязвычайна цёплы, спакой-

ны, васеньні, сьвяточны вечар. Заўсёды ў гэту пару ваша вуха прывыкла чуць вясёлую музыку лявоніхі, з усіх бакоў ляцелі да вас адгалоскі, прыемна вабячых слух, песень, аднак сёньня—вёска, як бязлюдная. Усюды ціш, усе замоўкла, як перад бурай. Углядаючыся бліжэй, вы бачыце, што вёска не бязлюдная. Сярод вуліцы сабралася грамада сялян. Праменьні заходзячага сонца ласкаві асьвячаюць іх паважныя твары. Вядзецца трывожная гутарка. Вы падыходзіце бліжэй да грамады, а ў гэты мамэнт, імпэтны гром гарматняга стрэлу вас затрымлівае; сяляне моўкнуць, спаглядаючы адзін на аднаго, якбы чакаючы адказу. Гукі страляніны паўтараюцца. „Блізка ўжо „таварышы“,— адзываецца нечы голас з грамады,—„колькі дзён таму назад былі пад Варшавай, а сёньня неўдалёчку ад нас, чуеце, як выразна чуваць страляніну. Так ім і трэба“ — прагрымеў голас старога Гіполіся. — „Польшча ня хоча іх камуны, яна сама патрапіць зрабіць у сябе парадак і вось як няпрошаных гасьцей частуе. Адно боязна, каб хлапцоў нашых не знайшлі бальшавікі з коньмі ў лесе“.... Раптам, страляніна зноў абрывае гутарку. Вочы сялян зварочваюцца да паважанага ўсімі, немаладога ўжо селяніна Антося, што ён скажа... „Вы кажаце“ — пачаў Антось,—„што Польшча сама наладзіць сваё жыцьцё, гэта так, але калі мы, беларусы, наладзім сваё жыцьцё. То-ж, перажываем ужо пятую акупацыю. Нас абдзіраюць, зьдзекуюцца і крыўдзяць, а мы усіх баімося. Ці-ж не маглі-б мы абыйсьціся без акупантаў? А ўся бяда у тым, што народ наш нацыянальна ня зусім яшчэ сьвядомы.—Сьвятая праўда, сьвятая праўда,—пачуліся ў адказ Антосю галасы з грамады. „Помставаць могуць таварышы, ў нашым лесе завяліся партызаны, скажуць што гэта наша работа, могуць і вёску спаліць“,— заўважвае баязьлівы Ігнась. Доўга яшчэ вядзецца гутарка, мінае поўнач і сяляне ўздыхаючы разыходзяцца па хатах з трывогай чакаючы дня. Антосю ня спалася ў гэту ноч. Ен думаў аб сваім 14-ці гадовым сынку Стасючку, каторы разам з іншымі хлапцамі з вёскі, паехаў нанач з канём у бор, каб усьцерагчы яго перад неспадзеванай рэквізыцыяй. „Ноч халодная, ён празябне,“ — думаў Антось, „паснуць пачлежнікі, а ён адзін будзе дрыжаць ад страху. А крый Божа, нойдуць іх бальшавікі, пабяруць коні, што будзе тады з Стасючком?“ Далей думы яго затрымліваліся над пытаньнем, дзе яго старшы сын? Ці жыве, а калі так, то горкая, мабыць, яго доля ў гэткія часы. Ягоная аддаасьць да беларускай працы давядзе яго да згубы. То-ж, выяжджаючы сказаў: „Будзем змагацца за лепшую долю Нашай Бацькаўшчыны“. А ці лёгка змагацца. Ізноў грук, на часіну сьціхшай канонады, ад каторай зазьвінелі вокны у хаце, абрывае яго думкі і зноў вяртаецца нясупакой аб Стасючку... Стасючок у гэту ноч пераждыў тож ня мала. Месца, дзе заначавалі нашы начлежнікі, было досьць прыгожае днём, а страшнае у цёмную ноч. Сярод густога бору, у лагчыне, на прагаліне, заросшай сёлета яшчэ няскошанай травой, дзе працякае невялічкая рачушка, нашы начлежнікі знайшлі сабе ў гэту ноч прыпынак. Разлажылі яны невялічкі агоньчык, каб быць няпрыкмечанымі, шэпчучы вялі яны гутарку. Коні іх неахвотна шчыпалі старую траву. Пад поўнач агонь зусім загас і нашы начлежнікі адзін за адным паснулі. Аднаго Стасючка сон ня браў. Прытуліўшыся да старой елкі, ён пільна ўглядаўся у тое мейсца, дзе пасьвіўся яго конік. Яму здавалася, што нечыя злыя вочы глядзяць на яго з за кустоў, што ў лясным гушчары злыя людзі згаварваюцца ўкрасьці яго каня. Здавалася, што за крыніцай сьвецяцца галодныя вочы ваўкоў, чутна як ляскаюць яны зубамі і зараз кінуцца на людзей і на

жывёлу. Хоць ня першую ноч начаваў Стасючок з сваім конікам далёка ад дому, аднак ніколі ня была яна яму такой страшнай, як сягоньня. Мароз прабягаў па скуры, валасы ўставалі на галаве ад такіх думак. Яму здавалася, што чутно, як страляюць у баку яго вёскі і там, думаў ён, ідзе расправа; там плача яго маці, там б'юць яго бацьку. Але вось зоркі на небе пачынаюць гаснуць, лес сінее, Стасючок цешыцца, што мінае гэта доўгая і страшная ноч, страх адыходзе проч і наш малады начлежнік, абязсілены, спатыкаючы раніцу, моцна засыхае...

Прачнуўся ён тады, калі ягоныя таварышы выграбалі з попелу апошніх некалькі бульбін, каторымі пасілкаваліся. Стасючок неяк засароміўся перад грамадой хлопцаў, што так доўга спаў, бо ведаў, што не павераць яму, калі скажа, што заснуў толькі нараніцы. Стасючка чакала новая работа,—ісьці ў вёску, даведацца, што чуваць і прынесьці што-колечы папалуднаваць. Усе сталі яго прасіць, бо ён шустры хлопец, скора вернецца, а Стасючок толькі гэтага і чакаў. Яму хацелася даведацца, што чуваць дома? І вось ён ужо бяжыць па вядомай дарожцы, бяжыць каб пабачыць сваіх бацькоў і расказаць пра гэту страшную ноч. Не агледзіўся. як лес пачаў радзець, паказалася поле, а там на ўзгорку яго вёска. Так хутка прабег пяць вёрст. Але раптам зьменшыў крокі; на гасьцінцы доўгім шнуром цягнуўся бальшавіцкі абоз, ішлі ў бязладзьдзі, а то і ехалі конна чырвонаармейцы. Гэта крыху яго перапудзіла і ён парашыў пачакаць пакуль гэта хваля пяройдзе. Да слуху яго данесьліся крыкі і плач з вёскі. „Божа мой! Што там быць можа?",—думаў ён. Нечакаючы ўжо даўжэй, адважна пайшоў ён праз дарогу і быў ужо ў вёсцы. Тут сапраўды адбывалася страшная расправа. Апошнюю жывёлу, апошняе зярнё забіралі бальшавікі. Ніякі плач, ніякія просьбы не памаглі. Бальшавікі у кожным бачылі ворага, навет самым сабе ня верылі і дзеля гэтага бязьлітасна помставалі над усімі. Дома Стасючок знашоў хворага бацьку, каторага пабілі жаўнеры. Заплаканая маці радасна кінулася на спатканьне свайго Стасючка, як бы бачачы ў ім магутнага заступніка і абняўшы яго плакала. Сьлёзы пакаціліся з вачэй у Стасючка, бо любіў ён вельмі сваіх бацькоў і бачыў, як яны моцна пакрыўджаны. Усе будынкі ў вёсцы былі паадчыняны, дабро і дабытак забраны. На вуліцы было ўжо мала жаўнераў, як раптоўна затрашчэў кулямёт і раздаўся кліч „здавайся". У вёску ускочыў разьезд польскай кавалерыі. Пакрыўджаныя сяляне з радасьцяй спатыкалі разьезд польскіх войск, а праз паўгадзіны на гасьцінцы разьлягалася песьня польскіх пяхотных жаўняроў „Мы—перша брыгада". Цяпер дэкарацыя перамянілася, аднак крыўды прычыненай народу ніхто не пакрые; беларус павінен сам яе вынясьці на сваіх плячох. Да вечара аставалася ня больш гадзіны, калі Стасючок бег у лес, каб азнаёміць сваім таварышом новую вестку. Цяпер можна было ўжо вярнуцца да дому і спакайней начаваць у хаце.

Прайшло некалькі месяцаў. На дварэ стаялі лютыя маразы. У Антосявай хаце рабілася штораз весялей. Атрыманы былі весткі ад старшага сына. Стасючок хадзіў у школу. Да навукі ён быў кемкі хлопец і ў трэцяй клясе быў адным з найлепшых вучняў. Аднак, яго маладая душа няраз цярпела балюча ад сваіх настаўнікаў. Вучыўся ён у польскай гімназіі, дзе з ягонай беларускасьці рабіліся немагчымыя жарты і зьдзек: у маладой душы адзілася нейкая ненавісьць, нейкая затаеная злосьць да сваіх настаўнікаў. Ён цяпер малы і слабы ня можа выступіць у адкрытую барацьбу, але далей будзе інакш. У сваёй маладой і добрай ад природы

душы, нічога воражага гэты школьнік ня мае, аднак такія адносіны зробяць з яго ворага, цяпер крыўджачай яго нацыі. Ен прабуе пісаць ужо беларускія вершы і з нейкім няведамым жарам праймаецца ўсім родным, беларускім. Гэта яшчэ зусім несьвядома, але нейкая няведамая сіла, нейкі прыродны інстынкт, заложаны ў яго душу, узводзіць яго на родны шлях.

Глыбока запалі ў яго душу словы ягонага брата: „Калі мы хочам людзьмі звацца, то павінны кахаць свой народ і яго мову“. Быў пачатак месяца сакавіка. На дварэ рабілася штораз цяплей. Сонца мацней прыпякала, а па вуліцы нашай вёскі з імпэтам бегла вада. Запахла вясна. Душа селяніна весялілася; хутка ўжо і скаціна пойдзе ў поле, карміць даўно ўжо нечым. Далёка ў высі пад самым небам азвалася песьня жаваранка. Сяляне ладзілі плугі і бароны, быць спраўнымі і выйсьці ў поле да працы.

Праз некалькі тыдняў можна было заўважыць у полі ростам невялічкага чалавека, барануючага свой загон. Гэта быў Стасючок. У вольных ад навукі хвілінах дапамагаў ён бацьком у працы; любіў ён вельмі вясковую работу. Роўнай ступою йшоў яго конік ласкава спаглядаючы на свайго гаспадара. Антось ня мог нацешыцца з свайго сынка—гэта быў яго памоцнік, яго радасьць. Але трэба было стацца бядзе вялікай, каторая якбы пяруном звалілася на галовы бедных Стасючковых бацькоў, каторая балюча закранула іх сэрцы. Ахвярай гэтага няшчасьця быў Стасюк. Занядужаў ён вельмі і дахтары знайшлі хваробу вельмі небясьпечнай. Захлапочаныя бацькі кідаліся ўва ўсе бакі, каб як колечы вылячыць свайго сынка. Ад лекаў мала ён меў палёгкі і нейкім невядомым інстынктам прачуваў, што выздаравець яму ня ўдасца. Сьлёзы каціліся па ўпалых шчочках ягонага тварыку. Ен плакаў і маліўся, каб Бог дараваў яму жыцьцё. То-ж яно яшчэ было ўперадзе яго, то-ж яно яму яшчэ было няведама...

Неўдалёчку за рэчкай у густым альшэўніку разьлівалася песьня салаўя, ў Антосявым садочку зацьвілі яблыні і грушы. Ужо з самага раньня на кветках красы гудзелі пчолы, зьбіраючы мёд, а ў хаце Антося над ложкам, дзе ляжаў Стасючок, заламаўшы рукі, галасіла яго маці: „Пакінуў ты нас старых, пакінуў ты наш саколік“, прыгаварвала яна. Стасючок памёр без пары, завяла нераспусьціўшаяся кветка, без пары сьмерць забрала маладое жыцьцё. Яшчэ за дзень перад сьмерцьцю, ўспамінаў аб сваім браце, так хацеў яго яшчэ хоць раз пабачыць, так вельмі яго кахаў. Прыбіты горам, нахіліўшы галаву, сядзеў Антось пры халодным трупіку свайго дарагога дзіцяці. Астаецца ён цяпер адзін на старасьці гадоў без сваей пацехі — Стасючка. А назаўтра тым шляхам, кудой Стасючок хадзіў у школу, звольна парушалася хаўтурная працэсія. Вёз Стасючка той конік, каторага так нядаўна, сьцярог ён ад ворагаў, нахіліўшы галаву, як-бы плачучы ў апошні раз вёз ён свайго маладога гаспадара. Плакалі сёстры нябожчыка, плакала вясна, плакалі таварышы школьнікі, плакалі прыдарожныя бярозкі, плакаў звон з званіцы. Плакала маладая Беларусь...

А. Пакуцкі.



# МАЛЮНКІ.

. . . . . . . . . . . . . . . .

1.

. . . Зямля усьмяхнулася...

Сьвятою і гарачаю нямотаю пацягнулася яна да неба, і, захоплена адным магутным жаданьнем адраджэньня, аддалася пяшчотлівым і ласкавым касулькам сонца... Глыбокія, сьнежныя гурбы, пачалі гінуць,—ледавыя ланцугі, ў каторых было скована яе цела, пачалі трашчэць і рвацца, — і блізкая хвіліна, калі яна іншая, падымецца вольна да жыцьця, — пацягнуўшыся ў захопленнасьці да ўсяго прыгожага, радаснага і сонечнага...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Шэпчуць штосьці крынічкі...

У вялікім вясельлі, жартаўліва пераганяючы адзін другога, — бягуць уперад, сьмяючыся да сонейка, і ў сваім вясёлым гомане, кажуць цэламу сьвету вялікую і сьвятую казку:—казку Адраджэньня...

Пэўныя і сьмелыя ляцяць яны далёка, робячы сабе новую дарогу, праз стары і мягкі сьнег,—павабна і пяшчотліва зьвіняць іх мэлёдыйныя галасы... —і ўсюды, усюды чуецца гэты дзіўны гоман, прыносячы з сабою для чалавека радасьць...

Асобныя, маленькія ручайкі, сьмела і горда імкнуцца ўперад, чысьцячы і адкідаючы на сваей дарозе ўсё няпрыгожае, непатрэбнае, перашкаджаючае,—і, злучыўшыся супольна з іншымі, робяць магутны шумны ручэй, каторы ў сваім сільным імкненьні разьбівае ўсе, стаячыя на дарозе, перашкоды...

Перашкоды прыходу Вясны...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Прыляцела першая ластаўка...

Доўга, страшэнна доўга ляцела яна з весткаю аб прыходзе вясны для сваей Бацькаўшчыны,—доўга, нязьлічна доўга зносіла яна на сваёй цяжкай дарозе розныя віхры і розныя прыкрасьці, — але прыляцеўшы, прынясла з сабою прыгожы і вясеньні гасьцінец: —

— „Наш Шлях“...

У вялікім вясельлі зачырыкала яна сваю новую вясеньнюю мэлёдыю, у каторай было чуваць каханьне яснае, ідэальнае сваей Бацькаўшчыны,—магутна чулася яе пяяньне пасярод палёў і лясоў, радасна адгукаючыся нейкай новаю сымфоніяй у сэрцах людзей,— Сымфоніяй Прабуджэньня...

◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎

# ВЯЛІКАЕ СЬВЯТА.

**(У чацьвертыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі).**

У жыцьці кожнага народу бываюць мамэнты, калі яго найглыбейшыя, найгарачэйшыя жаданьні знаходзяць яркае рэальнае выяўленьне. А што-ж можа быць больш гарачым, больш глыбокім, як *жаданьне Волі*?!

Бывала, што ў працягу доўгіх гадоў паняволены чужаземнаю ўладаю народ як-быццам заміраў у стане рабскага паніжэньня. Але лепшыя сыны яго ніколі не згаджаліся з існаваўшым палажэньнем: веліччу Духа свайго перарастаючы путы няволі, яны ахвярным жыцьцём і сьмерцяй мучанікаў будзілі прыспаныя сэрцы сваіх братоў. І

ўсё шырэй і шырэй навакола іх пачыналі ў тон з іхнымі біцца сэрцы народу,—ажно прабівала гадзіна, калі раб скідаў адвечныя путы і ставаўся *вольным чалавекам*.

І Народ Беларускі перажыў усё гэта. І ён вякі цэлыя жыў пад уладаю прыблудаў-чужакоў, што на сьлёзах і муках яго будавалі гмах свайго шчасьця... Шалёныя! Яны не разумелі, не прачувалі нават, што пад шэрай сьвіткай маўклівага і пакорнага долі сваей Беларуса-прыгоньніка б'ецца гарачае сэрца *чалавека*!

Ні вастрогі, ні тайга сібірская, ні шыбеніцы царскія не здалелі запалохаць, стрымаць, зьвярнуць з дарогі тых першых сяўцоў між Народам Беларускім сьветлых думак аб Волі, што горда і сьмела ступілі на шлях *нацыянальнага адраджэньня і вызваленьня* свайго народу. Малая грамадка іх—нязнаная, бяз іменьня, але дужая сваей верай у сьвятасьць распачатае працы,—ішла ўсё ўпярод, а з году ў год нарастала грамада насьледавальнікаў іх.

Ажно і для нас настаў такі вялікі мамэнт, калі жаданьне Волі не магло больш зьдзяржацца ў грудзёх міліёнаў. Народ збудзіўся, ўскалануўся. На „*вялікі сход*“ пацягнуліся з усіх канцоў Зямлі Беларускае паслы народныя—з „*вялікім словам*“.

А слова тое было: В*оля*. А сход тсй адбыўся ў адвечным месьце беларускім, старым Менску. А дзеялася гэта ў сьнежні месяцу тысяча дзевяцьсот семнадцатага году.

Усебеларускі Зьезд... Тысячы народных выбранцаў... Шэрыя сьвіткі сялян, бравэркі работнікаў, чорныя сурдуты інтэлігентаў, салдацкія шынелі... І ў усіх на вустах адно слова, кліч—наказ стуль, з дому:

— *Каб мы былі гаспадарамі на нашай Зямлі*!

Вялікая сьвята! Але сумны, горкі канец: тыя, што сваімі штыхамі разьвярнулі ненавістны пасад крывавага дэспота-цара, — тыя тымiж штыхамі разагналі „вялікі сход“...

А ў сьлед за гэтым арганізатары ганебнага разгону Усебеларускага Зьезду рэжуць жывое цела нашае Бацькаўшчыны-Беларусі і на торжышчы ў Бярэсьці запрадаюць яе часьцямі ў новае рабства—новым валадаром-чужынцам...

І зноў пачынаюць у адзін тон біцца сэрцы Народу Беларускага. Словы абураньня рвуцца з усіх грудзей. А разам з тым дасьпявае і крэпне сьвядомасьць у масах народных, што нельга зьдзейсьніць клічу „вялікага сходу“, не здабыўшы для сваей Бацькаўшчыны найвышэйшае формы Волі:

— Н*езалежнасьці*.

Дзень 25 сакавіка 1918 года прыносіць найярчэйшае, найпаўнейшае выяўленьне гэтае сьвядомасьці народу беларускага. Выбранцы народу ў Радзе Беларускае Народнае Рэспублікі ад імя ўсяе Беларусі

цьвёрда і галосна на ўсенькі сьвет заявілі:

„Год назад народы Беларусі разам з народамі Расеі скінулі ярмо расейскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь: ня пытаючыся народу, ён укінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнае залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу *Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай.* Самі народы Беларусі, у асобе свайго Устаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.

„На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Бярэсьці, што забівае на сьмерць Беларускі Народ, дзелючы зямлю яго на часткі“...

Так прамовіла Рада Рэспублікі ў Устаўнай Грамаце сваёй 25 сакавіка 1918 года—роўна чатыры гады таму назад.

Многа з таго часу вады ўцякло... Новая ваенная завіруха разбушавалася на зямлі Беларускай. Адзін за адным зьмяняліся ў нас валадары-чужынцы. Адзін за адным нішчылі і рабавалі яны нашу Бацькаўшчыну, манючыся на вечныя часы запанаваць над намі.

Ды дарэмна ўсё гэта! Няхай яшчэ многа год зьдзекуецца над намі чужынец, няхай верыць у сілу свайго зялезнага кулака, няхай топча сваімі салдацкімі ботамі ўсе боскія і людзкія правы Беларускага Народу—на жыцьцё і волю! Мы ня верым у вечнасьць яго панаваньня!

Ня верым, бо featureнымі дарогамі, рознымі ручайкамі будуць зьлівацца ў адну магутную раку жаданьні ўсіх Беларусаў быць вольнымі, ні ад каго не залежнымі гаспадарамі на сваей вольнай і незалежнай Зямлі!

Ня верым, бо Народ Беларускі, які перажыў дзень 25 сакавіка 1918 году, ня можа ўжо ніколі вярнуцца з паўдарогі і самахоць зрачыся свайго ідэалу.

Ня верым, бо зялезны кулак ніколі ня здолее забіць і паняволіць *вольнага Духа народнага!*

Мо' яшчэ многа гора і сьлёз пабачым мы на сваім вяку. Мо' ня раз, змучаныя зьдзекам і ўціскам чужацкае ўлады, будуць бязсільна апускацца нашы рукі. Але ніколі не загасьне перад нашымі вачыма сьветлая пуцяводная зорка — той вялікі ідэал, які выражаецца гэтымі двума славамі:

—*Незалежнасьць Бацькаўшчыны.*

І раней ці пазьней гэтыя словы абернуцца ў дзела.

**Антон Навіна.**



# (Памяці Ядвігіна Ш.)

Ціха з шэрых нябёс белы цадае сьнег...
А учора сьмяялась вясна...
Сонца першыя косы так сьветлы былі,
Усьміхаючысь, хмаркі ў блакіце плылі,
І ласкаў, і звадзіў гэты сьмех...
Вецер,—той, навет, дыхаў у твары вясной,
Ужо чарнела дзе-не-дзе зямля...
Усюды з грукатам срэбным плылі ручаі.
Ты памёр, ня прыждаўшы чароўнай вясны,
Сьпі-жа з чыстай, спакойнай душой.
Тут, на шумнай зямлі ты і жыў, і цярпеў,
Ты народ свой гаротны кахаў,
Ты да мэты ішоў бяз пуці, без дарог,
Працаваў, не шкадуючы сіл, пакуль мог,
Ня прыждаўшы вясны, дагарэў...
Дагарэў... але сьветлая памяць твая
Не разьвеецца лёгка, як дым...
Не забудуцца простыя словы тваё
І, як сына найлепшага, прыме цябе
Беларусі пакутнай зямля...

**Н. А.**

# Першы беларускі студэнцкі вечар у Вільні.

19 лютага г. г. у студэнтаў беларусаў Віленскага Унівэрстэту было вялікае сьвята. Быў першы беларускі студэнцкі вечар; вечар, калі беларуская моладзь гэтага Унівэрсытэту маніфэставала перад усім грамадзянствам сваю працу і сілу. Даволі прасторная саля Беларускага Музыкальна Драматычнага Гуртка прыгожа была прыбрана нацыянальнымі сьцягамі, фасад сцэны размалёваны малюнкамі, ўзятымі з узораў слуцкіх паясоў, а на сьценах красаваліся партрэты беларускіх пісьменьнікаў і дзеячоў.

Студэнты мастакі намалявалі сотні дзьве нязвычайна прыгожых малюнкаў на праграмы вечара. Гурток беларускіх кабет арганізаваў багаты буфэт.

Сабраўшаяся публіка запоўніла ўсе свабодныя месцы. Прыбылі на вечар студэнты палякі і жыды.

Урачысты вечар распачаў прамовай студэнт Абрамовіч гэткімі словамі: „Ад імяні беларускага студэнскага са-

юзу вітаю Вас, паважаныя госьці. Вітае Вас тая беларуская моладзь, якая знаходзіцца у мурох Віленскага Унівэрсытэту. Моладзь, каторая ня выраклася свайго роду, мовы, а разам з сваім многапакутным народам ідзе да светлай будучыны адраджэньня. Бо хто-ж, сапраўды, падасьць руку паратунку беларускаму народу, калі не ягоная радзімая інтэлігэнцыя! У векавой барацьбе за істнаваньне, у хаосе палітычных пераваротаў, народ наш страціў сваё імя, заблутаўся ў паняцьці нацыянальнай прыналежнасьці, а хто-ж дапаможа яму выйсьці на шлях здаровай ідэі, хто скіне заслону з яго вачэй, калі не ягоная нараджаючаяся інтэлігэнцыя—вучашчаяся моладзь. Аднак, ня мы тут цяпер у Вільні распачынаем гэту працу; гэта працяг тэй работы, якую пачала наша моладзь у другой палове XIX сталецьця. Уся Беларусь была тагды пад панаваньнем Расеі. Праява нацыянальнай беларускай думкі спынялася з усей строгасьцяй закону. Палітыка абрусеньня вялася ва ўсю. Аднак, ня гледзячы на гэту, унівэрсытэтах расейскіх лепшыя адзінкі нашай моладзі браліся за працу, арганізуючыся нелегальна ў культурна-прасьветныя гурткі. Народная творчасьць была тэй крыніцай, тым скарбам, скуль гэтая моладзь чэрпала сілы для сваей працы. Апавяданьні аб мінулым, песьні жальбы нашага селяніна, песьні гора беларускай жанчыны, рэдкія песьні вясельля, рой казак, легэндаў і іншых праяваў народнай мудрасьці, узносіла нашу моладзь у высь, сэрца мацней пачынала біцца, а з вуснаў вырываўся кліч: Народзе Беларускі! Ты не загінеш, бо сыны тваё цябе ня выракуцца, цябе ня здрадзяць, а стаўшы поплеч з табою пойдуць разам да лепшай будучыны! Сяньня мы йдзем тым цяжкім шляхам, які з большага яны нам працерабілі. Вялікі скарб мы атрымалі ад сваіх папярэднікаў, імёны нашых гэрояў-адраджэнцаў заламымі літарамі занесены ў страніцы беларускай гісторыі. Літэратура наша пазялічылася нязвычайна мастацкай поэзіяй, каторай дужа цікавяцца нашы суседзі і перад каторай вялікая будучына. Беларусь сяньня разарвана на часьці. Чорныя хмары круцяцца над ёй і сіляцца закрыць сонечны прамень, які дзякуючы жыцьцёвай сіле, прабіваецца і сьвеціць. Пагарда, гора і сьлёзы неадступна таварышаць нашаму народу.

Як пяе паэта наш Янка Купала: „Вісьне скарга ўздоўж Нёмна Беларусі. сына, як Ты бедна, як Ты цёмна, родная краіна“!

Аднак мы верым, што пройдзе ноч цемры і летаргу, а настане дзень сьвятла і ўваскрашэньня.

Будучы арганізацыяй культурна-прасьветнай, мы будзем весьці сваю працу ў гэтым кірунку, аднак востра будзем выступаць проці тых, каторыя кажуць: „што беларускі рух, гэта інтрыга расейская, польская, або нямецкая. Гэта ня інтрыга, а жыцьцё народнае каторае ў сваім працэсе творчасьці хоча абмінуць усе перашкоды, хоча парваць усё што зьвязвае яго дух, што зьвязвае яго волю.

Ці-ж нельга нам кахаць свой народ і мець у яго веру, як кахаюць свой народ прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў!?.

Няхай жа гэты наш першы вечар беларускага студэнства будзе добрым пачаткам нашай працы на карысьць Нашай Дарагой Бацькаўшчыны!

„К свабодзе, роўнасьці і знаньню,
Мы працярэбім сабе сьлед
І будзе ўнукаў панаваньне,
Там, дзе сягоньня стогне дзед“,

закончыў студэнт адрыўкам верша Янкі Купалы, а саля адказала громкімі воплескамі. Адчынілася заслона і на сцэне пайшла ў першы раз п'еса „Няскончаная драма“, твор вядомага нашага пісьменьніка і драматурга Францішка Аляхновіча.

Не ўдаючыся падробна ў характарыстыку гэтай нязвычайна багатай нацыянальным зьместам драмы, трэба адзначыць, што ў ёй з нязвычайнай яснасьцю выказана жыцьцё беларуса-інтэлігэнта, беларуса-пісьменьніка. Жыцьцёвыя няўзгоды, матэр'яльны недахват, прасьледаваньне з боку пануючай улады, а разам з тым, сільная вера ў карыснасьць сваей працы, уложана аўтарам у зьмест п'есы з мастацкай здольнасьцяй. П'еса зрабіла моцнае ўражаньне на публіку. Незмаўкаемыя воплескі, з воклікамі: аўтор, аўтор... напаўнялі душу нейкай таёмнай радасьцю, радасьцю жыцьця...

Артысты, сярод каторых былі і студэнты, ігралі складна. Асаблівую ўвагу зьвяртаў сваей ігрой аўтор п'есы, у ролі Васіля; яму належыць і заслуга добрай пастановы п'есы.

Далей беларускі хор, у ліку 40 асоб, пяяў народныя песьні, за што зьбіраў гучныя воплескі. Студэнтка Русецкая артыстычна прапяяла некалькі нумароў solo. Пасьля пад духавы аркестр пачаліся танцы.

Студэнты-беларусы прыймалі вячэрай прыбыўшых гасьцей-прадстаўнікоў студэнтскіх арганізацыяў, старэйшага беларускага грамадзянства, вучняў беларускай гімназіі і інш. За вячэрай пачаліся прамовы. Асаблівую ўвагу зьвярталі на сябе прамовы студэнтаў палякоў, у каторых чулася гарачая спагаданьне беларускай працы, чулася вялікае нездаволеньне з прычыны прасьледаваньня беларускага руху, якое вядзецца з боку польскай улады. Публіка разыйшлася на раніцы. На ўсіх вечар зрабіў вялікае ўражаньне, бо ўсе ўбачылі, што народ беларускі, дзякуючы сваёй моладзі, не загіне. Надоўга памятным астанецца гэты вечар у студэнтаў і ў прысутных на ім гасьцей.

А. П.

◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎

# Беларуская народная песьня.

Кожны народ незалежна ад ступені свайго культурнага жыцьця, мае сваю народную песьню, у которай як у люстры адбіваецца яго нацыянальная асобнасьць, яго характар. Нідзе можа так, як у песьні селяніна, не праглядае яго душа, радасьць, гора і нат' варункі жыцьця.

Народы з жывым тэмпэрамантам, дзякуючы кліматычным варункам, і песьню маюць жывую. Італьянцы, жывучы ў клімаце цёплым, музыку і песьню маюць поўную жыцьця і радасьці. Нешта падобнае можна сказаць аб Украінцах і Палякох. Калі прыглядзімся цяпер народам больш меньш прыбліжанным да паўночы, бачым што песьня і музыка народная мае ўжо характар зусім іншы. Разважнасьць, улумчывасьць і жальба паложана тут у аснову народнай творчасьці. Праўда спаткаемся і тут з праявамі жвавага рытму, асабліва ў танцавальнай музыцы, але гэта ўжо больш адносіцца да інструмэнтальнага мастацтва. Ня можна аднак казаць, што характар народнай творчасьці знаходзіцца пад уплывам кліматычных варункаў. Фактары гістарычныя і эканамічныя трэба тут паставіць побач з прычынамі этнографічнымі і кліматычнымі. Бязумоўна ў народаў славянскіх, як Беларусы і Расейцы, галоўны падклад мае тут палітычная няволя і цяжкі прыгон. У расейскай песьні адбіваецца татарская няволя і эканамічны уціск з боку пануючай клясы. Ня гледзячы на тое, што Расея пазьней была магутнай імпэрыяй, тварэц песьні, гаротны мужык ня

мог пяяць трыумфальнага гімну, працуючы на свайго пана і седзячы бяз хлеба.

Прыгледзімся цяпер аб чым пяе наша беларуская песьня. Каму здарылася прыслухацца зьместу і мэлёдыі гэтых песьняў, што разлягаюцца па нашых палёх, той незадумаўшыся назавець іх песьняй нядолі і няволі. Песьня беларуская, гэта цэлая літанія скарг пакрыўджанага чалавека. У песьні яго адбіваецца ўсё жыцьцё, пачынаючы ад калыскі і канчаючы труной. І калі нашаму гаротніку прыйдзе вясёлая часіна і з набалелых грудзей плыве: „Чаму-ж мне ня пець, чаму ня гудзець, калі ў маей хатачцы парадак ідзець" то і гэту песьню радасную пяе на мінорны лад. Гэта заўныўная сьлёзнасць нашых мэлёдый ня зьмяншае яе мастацкай вартасьці, а дае толькі тыповы нацыянальны воблік. Мы, Беларусы, ня маем геніяльных тварцоў музыкі, каторыя маглі-б чэрпаць з народнай песьні натхненьне і выліць гэту песьню ў закончаннай культывірованай форме. Можна аднак спадзявацца што адраджаючыся народ, як дрэўца маладое расьцець хутка і не ў далекай будучыне па меры культурнага прагрэсу нашай Бацькаўшчыны дасьць нам сваіх вялікіх мастакоў, каторыя, апіраючыся на народнай творчасьці, створаць нашу беларускую музыку. Так тварылі такія рамантыкі, як Шопэн, Чайкоўскі, Гріг і др., каторыя матэр'ял для сваіх твораў чэрпалі з песьняў свайго народу. У сучасны мамэнт нам, Беларусам, трэба толькі сьцерагчы песьні, гэты скарб народны, ад чужацкага налёту і забыцьця. Сёньня можна ўжо спаткаць людзей музыкальных, каторыя маглі-б запісаць народныя мэлёды і гэтым ратаваць іх ад загубы.

З невялікага ліку сабірацеляў беларускіх песьняў вялікую заслугу палажыў польскі кампазытар Людомір Рагоўскі, шчыры паклоньнік музыкальнасьці беларускай мовы і песьні. Ен першы арганізаваў беларускі хор у Вільні у 1910 г. Першы беларускі вечар, калі хор пяяў пад загадам Рагоўскага быў сапраўды гістарычным мамэнтам у жыцьці беларускай песьні. Другім працаўніком па зьбіраньні і гарманізаваньні беларускіх песьняў зьяўляецца п. А. Грыневіч, каторы ўлажыў шмат зборнікаў песьняў.

Цяпер беларуская песьня стала на сапраўдны шлях разьвіцьця, захопліваець большыя і большыя кругі грамадзянства, трапляючы да яго душы праз хоры і народны тэатр.

А. С.



## ДУМКІ

Я хачу бачыць цябе вольнай, мая дарагая Бацькаўшчына і сьветлай, як сонца!

І ты будзеш гэткай...

Вы ўсе, якія хочаце працаваць для яе адраджэньня, высьцерагайцеся зрабіць найменшы ланцуг на яе душу.

Калі хочаш даведацца праўды — узьнімайся высока ўгару і хай шлях твой асьвячаюць адны зоркі.

Агнём душы, жывым і палючым творацца ідэалы — магутнымі і высокімі.

Агнём душы...

Алеж душа гарыць!..

Жыцьцё ё жаданьне бяз концу, бяз меры.

Жаданьне — вера глыбокая, — сьвятая.

Шчасьлівы той, хто ня страці ў веры, бо ён жадае, — бо ён жывець.

У глыбокіх тайніках народнае душы зараджаецца праўда народная.

У сьвятой там хаваецца...

Асьцярожнасьці трэба вялікай і сьветлай чыстаты, каб угледзіць яе...

Бо яна сьвятая.

У выпадкі рэдкія і вялікія адкрываецца яна... не для усіх..., бо ня ўсе яе ведаюць, алеж усе ёю жывуць.

С. М—ў.

# Казка жыцьця.

(фантазія).

Ноч..., ноч васеньняя, цёмная, безпрасьветная...

Яна падыйшла няпрыметна да чалавека, агарнула яго цёмным, шэрым пакровам і стала шаптаць яму сумныя мэлёдыі васеньніх напеваў,—сваім старым, бяззубым ротам.

Страшна і сумна тады чалавеку.

Думкі, як дакучныя мухі, жудасныя і цёмныя, роем напаўняюць яго голаву і дзіўным карагодам нявыразных абразоў, нясуцца..., нясуцца і прападаюць у далёкім імглістам прасторы...

Некаторыя з іх, найбалей блізкія і хворыя ахопліваюць гарачыя мазгі яго і... душаць, душаць паціху, з перадышкай, што марскі гад сваімі клешнямі, прагавіта ўпіваюцца ў яго мысьль і, выпіўшы, высмактаўшы ўсю жыцьцёвую сутнасьць—душу чалавека,—пакідаюць няжывое цела...

Гэта памерла душа чалавека..., яе пахавала цёмная, жудасная васеньняя ноч...

Я сядзеў і думаў.. і розныя думкі аб Жыцьці і Сьмерці напаўнялі маю гарачую ацяжалеўшую голаву.

Часам лёгкі і павольны рух думак, наганяў на мяне салодкае забыцьцё, часам-жа марудным і цяжкім поступам паўзла жудасная мысьль аб сапраўднасьці і, няпрыметна падбіраючыся ў далёкія віламацінны мазгу напаўняла яго атрутай агіды да жыцьця і жахам істнаваньня. Я чуў, мне здавалася, што я бачыў у прасторы дзіўную дзікую істоту, з вялізарнымі, крывіжаднымі вачыма, якая бязупынна сьмяялась над сьветам, рагатала сваім галосным рогатам над усімі людзьмі, якія стараюцца зразумець і разгадаць загадку жыцьця... і з гікам і сьвістам кідала ў машыну жыцьця ўсё новыя і новыя істоты, якіх яна цiснула, душыла і выплёўвала назад скалечаных, аблітых крывёй, нязьдольных свабодна думаць, каб уцяміць жыцьцё.

Страх і жудасьць ахапліваў мяне...

. . . . . . . . . . .

II.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я здрыгануўся...

Мне выдалася, што хтосьці лёгкімі рухамі адчыніў дзьверы ў пакой і ціхім, нячутным крокам падыходзіць да мяне.

Я азірнуўся..

Перада мной стаяла нейкая старая, гарбатая кабета, якая ў сваей адрузьлеўшай руцэ трымала высокі кій... Глыбокія зморшчыны пакрывалі яе калісь прыгожы твар, з-пад фантастычнага галаўнога убору выбівалася горстка сівых валасоў..

— Хто вы?.. Адкуль?..,—спытаўся я, з задзівеньнем, падняўшыся з крэсла.

— „Я—жыцьцё"!.. Тая самая, аб якой ты толькі што думаў... і ветла кіўнуўшы мне сесьці на крэсла, гаварыла далей:

— „Я прышла да цябе, маё дарагое дзіцё, з тым, каб прасьвяціць цябе, разчыніць твае неразумныя вочы на маю сутнасьць, сказаць табе аснову і мэту сьветабудовы, прасты сэнс майго істнаваньня, і ты, зразумеўшы мяне, палюбіш жыцьцё і ня будзеш клясьці яго".

Зусім пераможаны, слухаў я, баяўся крануцца, баяўся перарваць гэта дзіўнае зданьне; яна-ж гаварыла:—

— „Слухай, дзіцё, горкае, неразумнае! Слухай, я раскажу табе казку, дзіўную, павабную: гісторыю майго жыцьця"..

І я стаў слухаць.

Вось што казала Жыцьцё...

. . . . . . . . . . . . . . . .

III.

. . . . . . . . . . . . . . . .

. . . — „З глыбіні вякоў, з вечнасьці быцьця, сьвятовая моц радзіла сваю сутнасьць:—мяне — Жыцьцё і сястру маю Сьмерць...

Яна дала нам вялізарную моц, моц творчасьці і моц нішчэньня. Але мая моц, моц Творчасьці была магутнейшая за моц Руйнаваньня. — Вось бачыш. ледзь узмахну я сваім кіем, як родзіцца жыцьцё ў сьветавым прасторы; палепшаю яго, вяду наперад па сьветлай дарозе быцьця да вечнага, безканчатнага шчасьця!..

Я раджу новыя сьветы, пасеяныя ў нязьлічанам множстве ў прасторы, вяду іх да мэты і блізкі той час, калі запаную я, дасканальнае Жыцьцё, царства вечнага шчасьця. У сваей творчай працы іду я няўхільным крокам наперад, праяўляю сябе і сваю сутнасьць ўсюды і раблю воблік новага жыцьця, якое зможа дасягнуць вечнага шчасьця..

— „Адзін раз, у захопленьні дзіўнага нябеснага натхненьня, я спарадзіла Чалавека, сільнага і магутнага.

— „Радзіла доўга, у муках: але родзячы яго я ўсьміхалася, бо давала пачатак істоце, якая будзе вянком і гордасьцю маей творчай працы...

Перанесеныя праз мяне мукі, не маглі пацямніць майго шчасьця, бо яны якбы сьведчылі аб высокім яго назначэньні і ягонай сутнасьці.

. . . . . . . . . . .

— „Але Сьмерць, бачучы маю радасьць, гэта дзіўнае стварэньне, пазавідавала мне... Яна пазавідавала мне дзеля таго, што ў сваім вечным руйнаваньні не магла здабыць той творчае радасьці, што выпала мне на долю, мне—Жыцьцю, і пастанавіла памсціцца, зьнічтожыць маё дзіцянё..."

— „Яна сказала: — Ен памрэ!.. Я пастаўлю яму такія варункі жыцьця пры якіх ён будзе лічыць за лепшае кінуцца мне ў абоймы, праклінаючы зачаўшую яго".

„І сваім голасам, магільна-халодным яна паклікала сваіх парабкоў: быў тут страшны тупы Роспач, нязноснае Гора, дзікая Варожасьць, Ненавісьць, Жах і шмат іншых.

Сабраўшы іх сказала:

— „Ідзеце ў жыцьцё, пракладайце шляхі ў маё царства."

. . . . . . . . . .

IV

...„І вось пайшлі войны на зямлі, запанавалі Няпрыязьнь, прагавітая Нажыва, Мана, Няшчасьце, Гора і Спрэчкі; яны дабіліся таго, што бедныя дзеці мае пачалі аддавацца ў рукі бязьмернага Страху, і яны сталі ненавідзець мяне, Жыцьцё, клясьці сваю маці, што жадала ім дабра..., пачалі кідацца ў абоймы Сьмерці..."

. . . . . . . . . .

Яна замоўкла.

Я бяз меры захоплены яе апавяданьнем, заўважыў, як пры апошніх словах яна глыбока ўздыхнула, яе старэчыя вочы напоўніліся сьлязамі і цяжкія ўспаміны налажылі пячаць суму на зморшчыных лобу:—

Выпраставалася, быццам адганяючы цяжкія думкі аб былым, гаварыла ціхім, прыемным голасам...

— „Але сьмерць не перамагла мяне. Толькі часова выбіла яна аружжа з рук маіх.

„Я стварыла сабе новае Аружжа і з новай сілай накінулася на ворага, які, пачуўшы яго моц і немагчымасьць перамагчы яго, пачаў паддавацца з глухой захаванай злобай.

— „Імя яго Мысьль... ёю я і падарыла маё дзіцё...

„Мысьль гордая, дужая, вечная!.. Яна ўсемагутна!.. Яна разьбіла ўсе кай-

даны створаныя сьмерцяй і зрабіла чалавека несьмяротным!

„Што з таго, што Сьмерць адбірае вонкавую яго абалочку—цела... Галоўная сутнасьць, сутнасьць яго душы, праяўленай ў моцнай боскай Мысьлі, — застаецца, застаецца каб удасканалiваючыся дасягнуць вечнага царства Жыцьця!..

„І галоўная мэта вашага істнаваньня знаходзіцца якраз у прабуджэньні Мысьлі, каторая з чалавека робіць істоту ўсесільную, безканечную...

„Але трэба прабудзіць яе, гэту ўсемагутную мысьль, трэба ўмець карыстацца ёю, каб зьнішчыць усе тыя перашкоды, што стварыла Сьмерць, каб дасягнуць царства шчасьця і вечнага здаволеньня.

„Людзі-ж у большасьці ня ўмеюць карыстацца гэтым Аружжам...

„Яны прамянялі яго на звонкія грошы і пусьцілі ў зварот. Яны імкнуцца да дасягненьня камфорту цела, якое нішто, прах і суета, сфэра дзеяльнасьці Сьмерці...

Яны, прабуджаючы яе, пакіравалі якраз процiў мяне, робячы яе Аружжам змагаючым Жыцьцё і Чалавека...

V

. . . . . . . . . .

„Скіраваўшы Аружжа ў супрацiўную старану і аддаўшыся магільнаму ўплыву Сьмерці, людзі сталі прыдумываць вучэньні, тэорыі, якія даказваюць, што вечнага жыцьця няма, што няма ў чалавека вышэйшае, несьмяротнае душы, а толькі ёсьць цела, з яго штодзеннымі патрэбамі і законамі.

„І многія сталі пераймацца духам гэтых вучэньняў, сталі бачыць мэту жыцьця ў здаволеньні ўсіх патрэб цела, і пайшлі змагацца з другімі людзьмі, каб стварыць толькі дагодныя варункі для свайго нікчэмнага цела.

„Войны, рэвалюцыі, няпрыязьнь, ненавісьць, прагавітасьць, ашуканства— усё гэта напоўніла сьвет, — барацьба за панаваньне: цела і духа.

„Людзі пачалі бачыць мэту жыцьця ў здаволеньні ўсіх патрэб цела, ня духа і яны зваявалі.

„Сьмерць перамагла несьмяротную сутнасьць жыцьця; з магутнага, несьмяротнага чалавека — зрабіла кавалак зчазаючай матэрыі... і нявыразны страх і жудасьць ахапіў чалавека... Ен спалохаўся сам сябе, спалохаўся сваіх памылак і ў роспачы працягнуў да неба рукі, каб яно раскрыла яму вочы...

...„І я пашкадавала людзей: я паслала да іх па зямлю, каб аблегчыць іх цярністыя дарогі, збудаваныя Сьмерцю, тры боскія сымболі: Веру, Надзею, Любоў.

„Людзі сталі верыць у лепшае жыцьцё, пачалі спадзявацца на будучае прасьвятленьне, убіраючы Любоўю свой цяжкі шлях жыцьця...

Зьявіліся адзінкі, каторыя зразумелі і пачулі іх фальшывае становішча і істнаваньне, пачалі напраўляць таўпу на запраўдны, сьветлы шлях быцьця...

Людзі сталі надзеяцца, верыць, любіць і думкі аб вялікай будучыні, напаўняюць радасьцю іх душы. Пасьвятлеўшыя вочы іх адважна глядзяць наперад, а прабуджаная вялікая Мысьль, перамагае ўсе перашкоды Сьмерці...

— „Але іх надта мала! Над імі насьміхаюцца, іх завуць дурнымі!

— „Але настане час, калі людзі зразумеюць правату меншасьці, і ў пакоры, шкадуючы прошлага, схіляць свае калені перад імі.“

Яна гаварыла доўга, хораша, чароўна. Думкі нязвычайна павабныя зьмяняліся па чарзе прыгожымі абразамі, а я сядзеў у нямым зачараваным экстазе і баяўся крануцца... І я ўпаў на калені перад ей і прагаварыў:

— „Выбач мяне! Я ня бачыў і блудзіў, я ня ведаў і вочы мае пакрыты былі цемраю! Ты разчыніла мне іх, прасьвяціла мяне і я зачараваны палюбіў Жыцьцё... Выбач мне, дарагая, даўшая

мне шчасьце быць вечным, несьмяротным!.."

З мацярынскай пяшчотнасьцю падыйшла яна да мяне і стала гладзіць мае валасы, прыгаварываючы:

— „Я расказала табе толькі адну мільённую частку таго, што ведаю, рэшта мусіш ты сам разгадаць, істотную мэту сьветабудовы...

—„Я расказала-бы табе аб усім драбязова, даверыла-б табе ўсе тайніцы сусьветнай веды, але я баюся, што ты не зразумееш мяне сваей слабой, неразьвітай мысьляй...

„Разьвівай, пашырай Мысьль вечную жыцьця і ты пазнаеш усе тайніцы сьвету і ўсю сутнасьць яго...“

І ўзяўшы мяне за руку, яна сказала:

— „Ідзем, я пакажу табе ўвесь сьвет; пакажу сябе ў сваёй творчасьці, каб убачыўшы вынікі працы маей, ты яшчэ балей палюбіў мяне..."

. . . . . . . . . .

VI.

Доўга ляцелі мы па Сусьвеце. З быстрынёй маланкі, па ўзмаху аднаго посаха Жыцьця, пралеталі мы мільённыя прасторы... Нязьлічоныя сьветы, плянэты; сонца імкнуліся перад нашымі вачыма...

Зачараваны глядзеў я ў нямым захопленьні. Дзіўныя, нязьмерна харошыя вобразы жыцьця чарадаваліся адзін за адным, пекныя зьявішча прыроды, панарамы сузьведзяў, напаўнялі душу маю шчасьцем істнаваньня і гордасьцю жыцьця... А я ўсё глядзеў, глядзеў, моцнае пачуцьцё пакланеньня перад усесільным жыцьцём напаўняла мяне...

У вялізарных сьветах і ледзь-ледзь прыметных пылінках я бачыў жыцьцё.. — жыцьцё вечнае, гордае, моцнае напаўняла вялікім хараством усё, да чаго толькі датыкалася чарадзейная рука маей таварышкі падарожы. Прынаднай сымфоніяй напаўняліся ўсе закуткі Сусьвету, чароўнай песьняй захопленьня Жыцьцём..., і мне захацелася жыць, жыць вечна, хараша, напаўняючы Жыцьцё ўдзячнай песьняй на чэсьць Жыцьця і Сонца.

Але я пабаяўся, што мне ня суджана выканаць гэта, і жаль запаў мне ў сэрца і ў галаву.

Але таварышка маей падарожы, якбы згадаўшы скрытыя мае думкі, сказала мне:

— „Ня бойся ты будзеш вечным! Гэта залежыць ад цябе...

„Радзі сваю Мысьль — Мысьль Жыцьця і ты станеш несьмяротным... працуй над ёй, пашырай яе і ня будзеш мець канца. Сьмерць толькі можа зьніштожыць тваё цела, але ня твой дух, тваю сутнасьць, — каторую зрабіць вечнай—у моцы тваей..."

. . . . . . . . . . . . . . . .

І зьвярнуўшыся да мяне яна сказала: — „Годзе! Я паказала табе ўсё, што ты можаш зразумець сваёй мысьляй, пачуць сваім сэрцам... Тваё заданьне пашыраць мысьль і ты пазнаеш новы сьвет, яшчэ дзіўнейшы і прыгажэйшы за паказаны табе...

— Цяпер ідзі на зямлю і раскажы людзям аб тым, што ты бачыў, і што чуў. Старайся адкрыць вочы людзям, прабуджай дрэмлячую мысьль і вы дасягнеце вечнага царства здаволеньня"...

І, сказаўшы гта, яна лёгка таўканула мяне,... і я пачаў падаць, падаць хутка на зямлю...

У глыбіні прастору я пачуў чыйсьці дзікі, злосны рогат, поўны ненавісьці і бязсільля; — рогат, праваджаючы новае жыцьцё, якое зарадзілася ў вышыні і цяпер няслося на зямлю з цудоўнай, сьвятой весткай, — гэта быў рогат шалу Сьмерці...

А я ляцеў усё ніжэй і ніжэй...

І зляцеўшы на зямлю, я паведаміў сьвет аб дзіўнай мары.

**П. Леўскі.**

# ХРОНІКА.

## З нашага жыцьця.

Яшчэ у 1920-21 вучэбным годзе студэнты Беларусы пачалі думаць аб сваёй арганізацыі. Было зроблена пара сходаў, на якіх быў апрацаваны статут арганізацыі пад назовам „Гурток Студэнтаў Беларусаў".Ня ўдалося яго ажыцьцёвіць, бо задзержка выйшла з зацьверджаньнем, на якое чакалі са тры месяцы, статут ніяк ня мог папасьці на паседжаньне Сэнату Акадэміцкага, так і скончыўся год.

Сёлета з самага пачатку заняткаў у унівэрсытэце, студэнты—беларусы узноў пачалі рупіцца дзеля стварэньня афіцыяльнае арганізацыі. Рабіліся кольві разоў сходкі, на якіх апрацавалі новы статут і ужо перад Калядамі быў выбраны „Выканаўчы Камітэт", заданьнем якога было рабіць стараньні аб зацьверджаньні статуту і наагул рэпрэзэнтацыя ўсіх студэнтаў Беларусаў. Дзякуючы добрым адносінам Сэнату Акадэміцкага, а больш усяго Яго Магніфіцэнцыі Рэктару В. Станевічу, статут надта хутка быў зацьверджаны і па Калядох можна было прыступіць да нармальнае працы. На чале „Саюзу Студэнтаў Беларусаў" знаходзіцца, выбраны на арганізацыйнай зборцы урад, які складаецца з 5 асоб: (старшыня А. Абрамовіч, пісар Т. Куніцкі, скарбнік Б. Туронак, сябры ураду С. Малафеяў і С. Грынкевіч.)

Пры саюзе з'арганізаваліся гэтакія сэкцыі: 1) культурна-прасьветная, 2) выдавецкая і 3) навуковая. Мэтай сэкцыі выдавецкае было наладзіць справу часопісі.

Сэкцыя культурна-прасьветная да гэтае пары займалася пастаноўкаю вечарыны-спэктакля. Сэкцыя навуковая арганізуець рэфэраты і публічныя лекцыі.

З'арганізавалася пры саюзе бібліятэка-чытальня. Карыстаць з кніжак і газэт можна на месцы. Адчынена штодзень ад 7-9 у вечары. У бібліатэцы можна знайсьці шмат беларускіх твораў як і наагул кніжак, маючых лучнасьць з Беларусьсю і беларускім пытаньнем.

## Студэнцкі вечар.

19 лютага г. г. быў пастаўлены першы студэнцкі вечар-баль. На сцэне бачылі ў першы раз „Няскочаную Драму" Ф. Аляхновіча. Апрача гэтага быў канцэртны аддзел. Гасьцей было надта многа. Вечар прайшоў добра. Грошай было зобрана 61.732 м. п.

## З заграніўнага беларускага студэнцкага жыцьця.

МАСКВА. Атрымоўваем з Масквы надта добрыя весткі. Студэнты зарганізованы там моцна. Лучацца яны ў дзьвюх арганізацыях: „Асоцыацыя студэнтаў Беларусаў" і „Гурток студэнтаў беларусаў".— Мэты маюць яны культурна-прасьветныя — тым балей трэба спагадаць ім у працы, таму што вядзецца яна ў вельмі цяжкіх абставінах.

ПРАГА. Як ведама, у апошнія годы шмат студэнтаў—Бел. ня могучы вучыцца ў сябе на Бацькаўшчыне — выязджаець за граніцу. Шмат маем сяброў у Празе. Там яны то-ж добра зарганізованыя ў «Гурток беларускіх студэнтаў ім. Францішка Скарыны ў Празе».

ВАРШАВА і ЛЮБЛІН. З гэтых навуковых цэнтраў атрымалі мы добрыя весткі. І там знаходзіцца шмат Беларусаў, і там яны пачалі рупіцца дзеля свайго аб'яднаньня. Пажадаем ім у працы ўсяго найлепшага.

---

24 лютага ў Вільні памёр адзін з слаўнейшых беларускіх пісьменьнікаў Антон Лявіцкі, добра ўсім вядомы пад псэўдонімам Ядвігіна Ш. Ен быў адным з тых, якія заўсёды верылі ў сьветлы ідэал Адраджэньня Беларусі і аддалі на гэты зўтар сваю веру і сілы.

„Sit tibi terra levis."

---

Рэдактар-Выдавец В. Туронак.

Цана нумару 150 марак.

## *АД РЭДАКЦЫІ.*

*Просім прысылаць рукапісы, пісаныя выразна, з аднаго боку лістка паперы, з подпісам сапраудным аутара, які астанецца вядомы толькі рэдакцыі.*

*Ня прынятыя рукапісы зварочацца ня будуць.*

*Паседжэньня выдавецкае каллегіі бывающь штотыдзень у пятніцы, а 7 гадзіне.*

*Рэдактар прыймаець у справах часопісі зауседы у серады і пятніцы ад 7 г.—9 г. у вечары.*

*Усіму аказаушым помач па выданьню „Нашага Шляха“ выказуемь сваю шчырую падзяку.*

*Рэдакцыя.*

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:
Біскупская 12.